Праваабарончы цэнтр «Вясна»

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ў 2019 годзе

## Аналітычны агляд

spring96.org

**ВЫСНОВЫ**

*- нягледзячы на нязначнае зніжэнне агульнага ўзроўню рэпрэсій у краіне ў параўнанні з папярэднім годам, у Беларусі на працягу 2019 года не адбылося істотных сістэмных зменаў у галіне грамадзянскіх і палітычных правоў, у першую чаргу на заканадаўчым узроўні, накіраваных на якаснае паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека;*

*- улады Беларусі не здолелі цалкам адмовіцца ад практыкі крымінальнага пераследу грамадзян па палітычных матывах. Па дадзеных ПЦ "Вясна", на працягу года палітычна матываваны крымінальны пераслед ажыццяўляўся ў дачыненні да сямі чалавек (М. Золатавай, С. Пятрухіна, А. Кабанава, А. Павука, М. Мазько, Д. Мазько, і Д. Паліенкі), трое з якіх (М. Золатава, С. Пятрухін і Д. Паліенка) былі асуджаныя судамі да пакаранняў, не звязаных з пазбаўленнем волі;*

*- нягледзячы на адсутнасць новых палітвязняў, у 2019 г. у месцах пазбаўлення волі працягваў знаходзіцца прызнаны беларускай праваабарончай супольнасцю палітвязнем Міхаіл Жамчужны. Працягваюць адбываць раней вынесенае судом пакаранне ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу лідары незалежнага прафсаюза РЭП Г. Фядыніч і І. Комлік. Іх пераслед быў прызнаны палітычна матываваным як беларускімі, так і міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі;*

*- выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 7-га склікання, якія прайшлі 17 лістапада 2019 г., не былі прызнаныя свабоднымі і дэмакратычнымі як незалежнымі нацыянальнымі назіральнікамі, так і міжнароднай місіяй назірання за выбарамі БДІПЧ АБСЕ;*

*- правядзенне парламенцкіх выбараў не прывяло да істотнага росту рэпрэсій у перыяд іх правядзення, аднак у пост-выбарчы перыяд назіралася павелічэнне адміністрацыйных справаў у дачыненні да ўдзельнікаў мірных сходаў, якія праводзіліся ў перыяд электаральнай кампаніі, а таксама ў дачыненні да ўдзельнікаў серыі акцый пратэсту супраць г.зв. «паглыбленай інтэграцыі» з Расіяй, якая прайшла ў Мінску, Гродне, Пінску, Лідзе ў снежні 2019 г.;*

*- у 2019 годзе па артыкуле 23.34 КаАП вынесена не менш за 162 пастановы ў дачыненні да 121 чалавека. З іх прызначаны арышт у 13 зафіксаваных выпадках. Акрамя таго, за ажыццяўленне права на мірныя сходы і выказванне меркаванняў на вулічных акцыях па артыкуле 23.4 КаАП (непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы) да адказнасці прыцягнуты 3 чалавекі, па артыкуле 17.1 (дробнае хуліганства) да адказнасці прыцягнуты 16 чалавек (25 зафіксаваных выпадкаў, вялікая частка з якіх кваліфікавана адначасова і па арт. 23.4 КаАП), з іх двум прызначаны арышт. 11 чалавек (44 выпадкі) аштрафаваныя за парушэнне правілаў дарожнага руху. Такім чынам, за ажыццяўленне права на мірныя сходы, свабоду меркаванняў і іх выказванне на вулічных акцыях падвергнуты адміністрацыйным спагнанням не менш за 151 чалавек, зафіксавана не менш за 234 выпадкі рэпрэсій;*

*- на працягу года былі зафіксаваныя шматлікія выпадкі пераследу блогераў і журналістаў незалежных СМІ ў сувязі з ажыццяўленнем імі прафесійнай дзейнасці. Па дадзеных ПЦ "Вясна", за 2019 год зафіксаваныя 45 фактаў адвольнага прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці 20 журналістаў і блогераў па ч. 2 арт. 22.9 КаАП. Агульная сума штрафаў за год склала 1 689 базавых велічынь — больш за 43 000 беларускіх рублёў;*

*- у 2019 годзе істотна не змянілася становішча з правамі на асабістую недатыкальнасць, свабоду ад катаванняў, жорсткага, бесчалавечнага і зневажальнага абыходжання;*

*- нягледзячы на працяг дыялогу з ЕС і ПАСЕ па праблеме смяротнага пакарання і заклікі да ўвядзення мараторыя, на працягу года ў Беларусі працягвалася прымяненне гэтага віду пакарання. У 2019 г. былі вынесеныя тры новыя смяротныя прысуды, а тры ранейшыя прысуды былі прыведзеныя ў выкананне;*

*- на працягу года ў краіне актыўна ўжывалася прымусовая праца ізаляваных у ЛПП, «абавязаных асобаў», прыцягнутых мясцовымі выканкамамі супрацоўнікаў дзяржпрадпрыемстваў і ўстановаў, а таксама ваеннаслужачых тэрміновай службы і студэнтаў дзяржаўных ВНУ да ўборкі сельгаспрадукцыі, удзелу ў суботніках і г.д.*

## I. УВОДЗІНЫ

На працягу 2019 г. знешнепалітычныя фактары працягвалі аказваць значны ўплыў на сітуацыю з правамі чалавека ў краіне.

Уплыў на ўнутрыпалітычную сітуацыю у 2019 г. тамсама аказваш пачатак працэсу г.зв. «паглыбленай інтэграцыі» — выканання ў большым аб'ёме падпісаных паміж Беларуссю і Расіяй у 1999 г. пагадненняў аб стварэнні «саюзнай дзяржавы» Беларусі і Расіі. Дадзеныя пагадненні сярод іншага прадугледжвалі стварэнне наднацыянальных саюзных органаў улады, увядзення адзінай валюты з адзіным эмісійным цэнтрам, уніфікацыю заканадаўства ў эканамічнай сферы, мытні і г.д. Прадастаўленне эканамічнай дапамогі Беларусі, а таксама льготныя цэны на газ і нафту кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі на практыцы звязвае з выкананнем дадзеных пагадненняў. Урад Беларусі і асабіста А. Лукашэнка запэўнівалі беларускае грамадства ў тым, што пытанні інтэграцыі закранаюць выключна эканамічныя пытанні. Аднак на думку прадстаўнікоў палітычнай апазіцыі і незалежнай грамадзянскай супольнасці, бягучая сітуацыя і згода ўрада Беларусі на ўдзел у абмеркаванні парадку дня г.зв. «паглыбленай інтэграцыі» ўяўляе патэнцыйную і рэальную пагрозу для суверэнітэту краіны. У сувязі з гэтым на працягу снежня 2019 г. на заклік апазіцыі ў некалькіх гарадах Беларусі прайшла серыя мірных акцый пратэсту ў падтрымку незалежнасці Беларусі і супраць падпісання інтэграцыйных пагадненняў з Расіяй.

Актывізацыя беларускага грамадства ў канцы 2019 г. выклікала павелічэнне рэпрэсій з боку ўладаў. У той жа час працяг урадам Беларусі палітыкі дыялогу і нармалізацыі адносін з Еўрапейскім Саюзам і ЗША змушаў улады краіны ўстрымлівацца ад прымянення жорсткіх формаў рэпрэсій у дачыненні да палітычнай апазіцыі і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці цягам 2019 г.

Правядзенне 17 лістапада 2019 года выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 7-га склікання ў цэлым таксама не прывяло да значнага росту рэпрэсій у краіне непасрэдна ў перыяд электаральнай кампаніі. Пасля завяршэння выбараў назіралася павелічэнне колькасці выпадкаў прыцягнення грамадзян да адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у мірных сходах у перыяд правядзення выбараў, што было адзначана праваабаронцамі як рост рэпрэсій у пост-выбарчы перыяд.

Мірныя сходы грамадзян, якія праходзілі ў перыяд выбараў і пасля іх заканчэння, у большасці выпадкаў не спыняліся органамі правапарадку, а іх ўдзельнікі не затрымліваліся падчас правядзення сходаў і непасрэдна пасля іх завяршэння. Тым не менш, у 2019 годзе ўлады актыўна ўжывалі адміністрацыйныя спагнанні ў дачыненні да

ўдзельнікаў сходаў, у тым ліку і арышты. Праследу з боку ўладаў гэтак жа падвяргаліся незалежныя блогеры і журналісты-фрылансеры, якія ажыццяўляюць супрацоўніцтва з замежнымі СМІ, у першую чаргу з польскім тэлеканалам Белсат.

Самі ж выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 7-га склікання, паводле ацэнкі прадстаўнікоў кампаніі незалежнага назірання за выбарамі "Праваабаронцы за свабодныя выбары", не адпавядалі шэрагу ключавых міжнародных стандартаў правядзення дэмакратычных і свабодных выбараў, а таксама выбарчаму заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

Выбары не былі прызнаныя дэмакратычнымі і адкрытымі і міжнароднай місій назірання за выбарамі БДІПЧ АБСЕ.

У 2019 годзе ўлады Беларусі не адмовіліся ад палітычна матываваных рэпрэсій і працягвалі іх прымяненне ў дачыненні да грамадзян краіны ў розных формах і праявах: крымінальны і адміністрацыйны пераслед і іншыя формы ціску ў сувязі з іх актыўнай палітычнай апазіцыйнай ці грамадскай дзейнасцю.

Сітуацыя ў краіне у 2019 г. таксама пагаршалася ў выніку фактычнай адсутнасці значных сістэмных зменаў, у першую чаргу на ўзроўні заканадаўства, у галіне правоў чалавека. Адзінымі значнымі пазітыўнымі зменамі у 2019 г. можна назваць адмену ў ліпені арт. 193.1 КК, які прадугледжваш крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраваных грамадскіх аб'яднанняў, рэлігійных аб'яднанняў, партый і фондаў. Уведзеная наўзамен адміністрацыйная адказнасць за такую дзейнасць на працягу перыяду дзеяння адпаведнай нормы не ўжывалася. Аднак яна ўяўляе патэнцыйную пагрозу для прадстаўнікоў незарэгістраваных арганізацый.

Таксама на працягу 2019 г. не адбывалася якаснага ўзаемадзеяння паміж прадстаўнікамі праваабарончай супольнасьці і дзяржавы. Адзінкавыя кантакты насілі несістэмны характар і не прывялі да паўнавартаснага дыялогу па актуальным праваабарончым парадку дня. Так і не былі створаны нацыянальныя інстытуты па правах чалавека. У краіне працягвала прымяняцца смяротнае пакаранне.

## II. ПАЛІТЫЧНА МАТЫВАВАНЫ КРЫМІНАЛЬНЫ ПЕРАСЛЕД І ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

Усяго, па дадзеных ПЦ "Вясна", у 2019 г. палітычна матываваны крымінальны пераслед ажыццяўляўся ў дачыненні да сямі чалавек, што менш, чым у папярэднім 2018 г. (18 чалавек), значна менш, чым у 2017 г. (40 чалавек), і столькі ж, як ў 2016 г.

Варта адзначыць, што з сямі ўзбуджаных крымінальных справаў да крымінальнай адказнасці ў суды былі накіраваныя тры; асуджаныя тры чалавекі — галоўная рэдактарка партала TUT.BY Марына Золатава, блогер з Брэста Сяргей Пятрухін і актывіст анархісцкага руху Дзмітрый Паліенка. Пры гэтым, у дачыненні да ўсіх трох было ўжыта пакарання, не звязанае з пазбаўленнем волі. Астатнія раней узбуджаныя крымінальныя справы былі спыненыя органамі следства ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства ў дзеяннях падазраваных і абвінавачаных.

Такім чынам, цягам 2019 г. у Рэспубліцы Беларусь не з'явілася новых палітычных зняволеных.

Аднак у 2019 г. у калоніі № 9 у г. Горкі працягваў адбываць тэрмін Міхаіл Жамчужны — адзіны на дадзены момант палітычны зняволены, прызнаны такім беларускай

праваабарончай супольнасцю. На працягу года яго неаднаразова змяшчалі ў ШІЗА, падвяргалі align рознага роду правакацыям і абмежаванням, што адназначна расцэньваецца ПЦ “Вясна” як ціск на палітвязня з боку адміністрацыі папраўчай установы.

Таксама працягвалі адбываць пакаранне ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу лідары незалежнага прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч і Ігар Комлік, асуджэнне якіх у 2018 годзе было прызнана палітычна матываваным беларускай і міжнароднай праваабарончай супольнасцю. У лістападзе 2019 г. у сувязі з прыняццем закона «Аб амністыі ў сувязі з 75-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» тэрмін пакарання Г. Фядынічу і І. Комліку быў скарочаны на адзін год.

**Крымінальны пераслед галоўнай рэдактаркі партала TUT.by Марыны Золатавай**

4 сакавіка 2019 года суд Заводскага раёна Мінска агучыў прысуд галоўнай рэдактарцы партала TUT.by Марыне Золатавай па ч. 2 арт. 425 Крымінальнага кодэкса (бяздзейнасць службовай асобы). У адпаведнасці з вынесеным суддзёй Аляксандрам Петрашам прысудам, М. Золатава была прысуджаная да штрафу ў памеры 300 базавых велічынь — 7 650 беларускіх рублёў. Таксама з яе спагнаныя выдаткі “пацярпелага” інфармагенцтва БелТА на адвакатаў у памеры больш за 6 000 рублёў.

Нагадаем, што 7 жніўня 2018 г. Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь распаўсюдзіў інфармацыю аб узбуджэнні крымінальнай справы па ч. 2 арт. 349 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (несанкцыянаваны доступ да камп’ютарнай інфармацыі, здзейснены з карыслівай ці іншай асабістай зацікаўленасці, або групай асобаў па папярэдняй змове, альбо асобай, якая мае доступ да камп’ютарнай сістэмы або сеткі).

Усяго за два дні былі затрыманыя 9 журналістаў розных інфармацыйных выданняў і рэсурсаў, а ў рэдакцыях вядучых незалежных інфармацыйных парталаў і па месцы жыхарства журналістаў былі праведзеныператрусы. Сямёра журналістаў былі затрыманыя на трое сутак у якасці падазраваных па ўзбуджанай крымінальнай справе і змешчаны ў ІЧУ. Пасля, на працягу трох сутак, усе затрыманыя былі вызваленыя. М. Золатавай прад'яўленае абвінавачванне ў бяздзейнасці службовай асобы.

5 лістапада 2018 г. некаторым падазраваным журналістам былі прад’яўленыя абвінавачванні па ч. 2 арт. 349 КК. Мера стрымання была абраная ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе і належных паводзінах. Пазней, на працягу лістапада, крымінальны пераслед у дачыненні да чатырнаццаці фігурантаў справы быў спынены з прыцягненнем іх да адміністрацыйнай адказнасці. Крымінальная справа ў дачыненні да М. Золатавай была перададзена ў суд.

У сувязі дадзенымі падзеямі ПЦ “Вясна” і БАЖ выступілі з сумеснай заявай, у якой назвалі пераслед грубым парушэннем свабоды выказвання меркаванняў і дзейнасці СМІ. Сумесны зварот праваабарончых арганізацый Беларусі быў накіраваны спецыяльнаму дакладчыку ААН па пытанні аб заахвочванні і абароне права на свабоду меркаванняў і іх свабоднае выказванне Дэвіду Кайе і Прадстаўніку АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Арлему Дэзіру. Журналістаў і рэдакцыі падтрымалі Еўрасаюз, Савет Еўропы, ЗША, а таксама нацыянальныя і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі.

**Крымінальны пераслед экалагічных актывістаў Майсея і Дзяніса Мазько ў г. Брэсце**

2 красавіка 2019 г. у машыне, за стырном якой ехаў брэсцкі экалагічны актывіст Майсей Мазько, знайшлі патроны, брыкет неўстаноўленага рэчыва, а таксама прадмет, падобны па знешніх прыкметах на запал выбуховага прыстасавання. Пазней Майсей Мазько і яго сын Дзяніс былі затрыманыя ў якасці падазраваных у здзяйсненні злачынства па ч. 2 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, выбуховых рэчываў і боепрыпасаў). У іх доме прадстаўнікамі праваахоўных органаў быў праведзены ператрус, у выніку якога не было знойдзена якіх-небудзь забароненых прадметаў. Праз трое сутак знаходжання ў ІЧУ Майсей і Дзяніс Мазько былі вызваленыя.

Жыхар вёскі Тэльмы Брэсцкага раёна Майсей Мазько з'яўляецца ўдзельнікам ініцыятыўнай групы супраць будаўніцтва акумулятарнага завода пад Брэстам. Больш за год ініцыятыўная група берасцейцаў і жыхароў раёна, а таксама яе прыхільнікі кажуць пра шматлікія парушэнні на розных этапах рэалізацыі праекта.

4 кастрычніка 2019 г. крымінальная справа ў дачыненні да Майсея і Дзяніса Мазько была спынена ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства.

Паплечнікі і сваякі Майсея Мазько з самага пачатку крымінальнага пераследу заяўлялі аб яго невінаватасці і правакацыі ў сувязі з яго актыўнай грамадскай дзейнасцю. Прадстаўнікі ПЦ "Вясна" таксама лічаць, што крымінальны пераслед Майсея Мазько і яго сына Дзяніса насіў палітычна матываваны характар і быў звязаны з іх актыўнай экалагічнай дзейнасцю.

**Крымінальны пераслед блогераў Сяргея Пятрухіна, Аляксандра Кабанава і Андрэя Павука**

1 лютага 2019 г. Брэсцкім міжраённым аддзелам Следчага камітэта была вынесена пастанова аб прыцягненні ў якасці абвінавачанага вядомага блогера з Брэста Сяргея Пятрухіна. Яго абвінавачвалі па ч. 2 арт. 188 (паклёп) і ч. 2. арт. 189 (абраза) КК. Падставай для распачынання справы сталі яго відэаролікі, у якіх ён заявіў аб датычнасці супрацоўнікаў Ленінскага РУУС г. Брэста да збіцця ў 2016 г. жыхара горада П. Камінскага.

Варта адзначыць, што збіты супрацоўнікамі Ленінскага РУУС г. Брэста П. Камінскі звярнуўся з заявай у Следчы камітэт аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці супрацоўнікаў міліцыі, указаных у відэароліках С. Пятрухіна. Нягледзячы на тое, што экспертыза зафіксавала нанесеныя П. Камінскаму пабоі і не выключыла іх прычыненне пры заяўленых Камінскім абставінах, СК вынес пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. За перыяд з 2016 па 2019 гг. былі вынесены восем пастаноў аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, сем з якіх адмянялася вышэйстаячымі органамі СК і пракуратуры ў сувязі з непаўнатой праведзенай праверкі па заяве. На момант пачатку крымінальнага пераследу С. Пятрухіна чарговая скарга на раней вынесеныя пастановы аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі была накіраваная П. Камінскім на імя пракурора г. Брэста і ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым, ніякіх прэтэнзій да самога П. Камінскага і распаўсюджанай ім інфармацыі ў праваахоўных органаў не ўзнікала.

2 красавіка 2019 г. прадстаўнікі беларускай праваабарончай супольнасці выступілі з сумеснай заявай у сувязі з крымінальным пераследам С. Пятрухіна, у якой заклікалі ўлады Беларусі неадкладна спыніць яго пераслед і зняць усе прад'яўленыя абвінавачванні.

Прадстаўнік дзяржаўнага абвінавачвання падчас суду над С. Пятрухіным прасіў суддзю прызначыць пакаранне па сукупнасці злачынстваў — абмежаванне волі на 2 гады з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу і штраф у памеры 100 базавых велічынь.

18 красавіка 2019 г. суддзя суда Ленінскага раёна г. Брэста Аляксандр Семянчук вынес прысуд па крымінальнай справе ў дачыненні да Сяргея Пятрухіна. Яго прызналі вінаватым па ч. 2 арт. 188 (паклёп) і ч. 2 арт. 189 (абраза) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Блогера пакаралі штрафам у памеры 360 базавых велічынь — 9 180 беларускіх рублёў, або па 180 базавых велічыняў па кожнай артыкуле. Суд задаволіў грамадзянскія пазовы пацярпелых. С. Пятрухіна абавязалі выплаціць маральную шкоду пацярпелым супрацоўнікам Ленінскага РАУС г. Брэста (Сяргею Ігнацюку, Дзмітрыю Якушэвічу, Ігару Галянцічу і Сяргею Такуну) у памеры 7 750 беларускіх рублёў. У сукупнасці па прысудзе блогер абавязаны выплаціць каля 17 тысяч беларускіх рублёў і судовыя выдаткі.

Усе наступныя скаргі С. Пятрухіна на вынесены прысуд не былі задаволеныя вышэйстаячымі судовымі інстанцыямі і прысуд уступіў у законную сілу.

7 сакавіка 2019 г. у г. Бяроза ў доме блогера Аляксандра Кабанава быў праведзеныператрус у рамках распачатай у дачыненні да яго крымінальнай справы. Як стала пазней вядома ПЦ "Вясна", крымінальная справа па ч. 1 арт. 211 КК (прысваенне або растрата) была ўзбуджаная Бярозаўскім раённым аддзелам Следчага камітэта па заяве аднаго з суседзяў А. Кабанава па хаце, які з'яўляецца дзеючым супрацоўнікам міліцыі.

Блогер падазраваўся ў тым, што ў 2017 г. атрымаў ад жыхароў дома, у якім ён пражывае, грашовыя сродкі на дзяржаўную рэгістрацыю таварыства ўласнікаў і выраб праектнай дакументацыі на будаўніцтва падвальных памяшканняў. Пасля гэтага, не выканаўшы узятыя на сябе абавязальніцтвы, ён нібыта прысвоіў дадзеныя грашовыя сродкі ў памеры 400 рублёў. Сам А. Кабанаў сцвярджаў, што 440 рублёў былі яго заработнай платай за выкананне ім на працягу чатырох месяцаў абавязкаў старшыні таварыства ўласнікаў. Дадзеныя сродкі добраахвотна перадаваліся яму жыхарамі дома і ніякіх прэтэнзій да яго да нядаўняга часу ніхто з іх не выстаўляў.

9 ліпеня 2019 г. стала вядома, што Бярозаўскі раённы аддзел Следчага камітэта спыніў крымінальную справу ў дачыненні да блогера А. Кабанава.

21 кастрычніка Аляксандр Кабанаў паведаміў, што на падставе пастановы пракуратуры Брэсцкай вобласці Следчы камітэт аднавіў у дачыненні да яго вытворчасць па крымінальнай справе.

Крымінальная справа была адноўленая практычна адразу пасля выступу А. Лукашэнкі, які ў чарговы раз выказаўся пра тое, што некаторыя праціўнікі будаўніцтва акумулятарнага завода ў г. Брэсце "рвуцца ва ўладу". Варта адзначыць, што А. Кабанаў намерваўся прыняць удзел у парламенцкіх выбарах, але не быў зарэгістраваны ў якасці кандыдата ў дэпутаты акруговай выбарчай камісіяй.

Праз месяц крымінальная справа была зноў прыпынена, а ў снежні 2019 г. спынена за адсутнасцю складу злачынства ў дзеяннях А. Кабанава.

Блогер Аляксандр Кабанаў разам з Сяргеем Пятрухіным раней не раз прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. Іх штрафавалі за відэаролікі для канала «Народны

рэпарцёр», у якіх яны асвятляюць сітуацыю вакол будаўніцтва пад Брэстам акумулятарнага завода «АйПауэр», за збор подпісаў за адстаўку чыноўнікаў, якія міліцыя і суд палічылі несанкцыянаваным масавым мерапрыемствам, і г.д.

ПЦ "Вясна" разглядае пераслед блогераў С. Пятрухіна і А. Кабанава як ціск уладаў у сувязі з іх актыўнай грамадскай дзейнасцю, у тым ліку ў кантэксце агульнай сітуацыі ў сувязі з пратэстамі грамадскасці ў г. Брэсце супраць будаўніцтва акумулятарнага завода.

Праваабаронцы ПЦ "Вясна" таксама занепакоеныя сітуацыяй, якая склалася вакол блогера Андрэя Павука, якога 20 сакавіка 2019 г. затрымалі супрацоўнікі міліцыі ў г.п. Акцябрскі Гомельскай вобласці. Па месцы яго пражывання ў рамках узбуджанай крымінальнай справы супрацоўнікамі міліцыі быў праведзеныператрус, канфіскаваныя камп'ютар і іншая тэхніка. Крымінальная справа ў дачыненні да А. Павука была ўзбуджаная па ч. 1 арт. 340 КК (заведама ілжывае паведамленне аб небяспецы). Па версіі следства, А. Павук адправіў з яго адраса электроннай пошты ў гомельскае абласное аддзяленне МНС паведамленне аб мініраванні Кастрычніцкага райвыканкама, супрацоўнікі якога былі ў сувязі з гэтым эвакуіраваны адмысловымі службамі. Пасля допыту ў якасці падазраванага А. Павук быў вызвалены. Праз месяц з блогера знялі абвінавачванне па крымінальнай справе. Канфіскаваную ў А. Павука ў рамках крымінальнай справы тэхніку вярнулі.

Андрэй Павук неаднаразова цягам 2019 г. падвяргаўся рознага роду ціску, у тым ліку ананімным пагрозам у свой адрас, у сувязі са сваёй грамадскай дзейнасцю.

**Крымінальны пераслед актывіста анархісцкага руху Дзмітрыя Паліенкі**

Дзмітрый Паліенка, прызнаны ў перыяд адбывання папярэдняга пакарання беларускай праваабарончай супольнасцю палітвязнем, а таксама вязнем сумлення Amnesty International, 20 траўня 2019 годзе быў зноў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі па падазрэнні ў здзяйсненні асабліва злоснага хуліганства (ужыванне газавага балончыка ў дачыненні да грамадзяніна, з якім у яго нібыта здарыўся канфлікт) і змешчаны ў СІЗА.

Трэба адзначыць, што яшчэ ў лютым 2019 г. Д. Паліенка ужо затрымліваўся міліцыяй па падазрэнні ў нанясенні графіці на адным з будынкаў г. Мінска ў рамках узбуджанай па гэтым факце крымінальнай справы па арт. 341 КК.

Пазней яму было прад'яўленае абвінавачванне адразу па некалькіх артыкулах КК: ч. 3 арт. 339 (асабліва злоснае хуліганства), арт. 369 (абраза прадстаўніка ўлады), арт. 130 (распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай, альбо іншай сацыяльнай варожасці або розні), і арт. 341 (апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці).

Варта адзначыць, што некаторыя з прад'яўленых Д. Паліенку абвінавачванняў, на думку праваабарончай супольнасці, з'яўляліся недапушчальным абмежаваннем свабоды выказвання меркавання і стваралі новыя небяспечныя формы пераследу грамадзян за публічную крытыку дзейнасці дзяржаўных органаў і прадстаўнікоў улады.

Так, у прыватнасці, Д. Паліенку было прад'яўленае абвінавачванне ў распальванні варожасці, якое, на думку следства, ажыццяўлялася ў дачыненні да «іншай сацыяльнай групы» — супрацоўнікаў міліцыі. Абвінавачванне было прад'яўлена на падставе аналізу органамі следства відэароліка, распаўсюджанага ў сетцы інтэрнэт, на якім невядомыя асобы наносяць графіці пра супрацоўнікаў міліцыі на фоне песні «Менты убивают молодых» расійскага гурта «Телевизор». Напрыканцы роліка з'яўляецца некалькі плакатаў і лозунгаў з крытыкай міліцыі, у тым ліку і вобраз былога міністра ўнутраных справаў

І. Шуневіча. На падставе гэтага ж аналізу следства прыйшло да высновы аб наяўнасці ў роліку яшчэ і прыкметаў абразы прадстаўніка ўлады — тагачаснага міністра ўнутраных справаў І. Шуневіча.

Дадзеная крымінальная справа выклікала вялікую грамадскую цікавасць і з'яўлялася палітычна матываванай. Праваабарончыя арганізацыі Беларусі прынялі сумесную заяву з патрабаваннем адкрытага судовага працэсу з захаваннем усіх прынцыпаў і гарантый справядлівага судовага разгляду. У сваёй заяве праваабаронцы нагадалі прадстаўнікам уладаў аб тым, што, у адпаведнасці з палажэннямі Кіраўніцтва па вызначэнні паняцця «палітычны вязень», прынятага беларускай праваабарончай супольнасцю, пазбаўленне волі ў парушэнне права на справядлівае судовае разбіральніцтва, іншых правоў і свабодаў, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах або Еўрапейскай канвенцыяй аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў, пры наяўнасці палітычных матываў такога пераследу, з'яўляецца падставай для прызнання такіх асобаў палітычнымі вязнямі.

17 кастрычніка 2019 г. напачатку судовага працэсу ў Мінскім гарадзкім судзе стала вядома, што пракурор, які прадстаўляў дзяржаўнае абвінавачанне ў працэсе, адмовіўся ад большасці абвінавачванняў. Судовы працэс па абвінавачванні па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства) у сувязі з гэтым стаў адкрытым. У судзе Д. Паліенка сябе вінаватым не прызнаў і патлумачыў суду, што пацярпелы, які знаходзіўся ў стане моцнага алкагольнага ап'янення, ударыў яго па галаве. У выніку, асцерагаючыся далейшых супрацьпраўных дзеянняў у адносінах да сябе, Д. Поліенка вымушаны быў прымяніць газавы балончык.

Пракурор, які падтрымліваў дзяржаўнае абвінавачанне, прапаноўваў пакараць Д. Паліенку шасцю гадамі пазбаўлення волі.

25 кастрычніка 2019 г. Д. Паліенку прызналі вінаватым у асабліва злосным хуліганстве і прысудзілі да трох гадоў абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу. Пакаранне было скарочана на адзін год у сувязі з амністыяй. Яго вызвалілі ў зале суда. З улікам часу, праведзенага пад вартай у СІЗА, Д. Паліенка будзе адбываць пакаранне цягам 10 месяцаў. Д. Паліенка абскардзіў вынесены прысуд у апеляцыйным парадку ў судовую калегію па крымінальных справах Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. Пракуратура таксама накіравалі свой апеляцыйны пратэст на вынесены прысуд, але пазней адклікала яго.

У ходзе правядзення маніторынгу судовага працэсу па абвінавачванні Д. Паліенкі па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства) прадстаўнікі ПЦ "Вясна" прыйшлі да высновы аб адсутнасці якіх-небудзь дакладных доказаў вінаватасці Д. Паліенкі ў здзяйсненні інкрымінаваных яму дзеянняў. Прымяненне ім у дачыненні да пацярпелага газавага балончыка насіла характар самаабароны ад супрацьпраўных і гвалтоўных дзеянняў самога пацярпелага і не можа быць кваліфікавана як крымінальнае злачынства. Пры такіх абставінах суд павінен быў вынесці ў дачыненні да Д. Паліенкі апраўдальны прысуд і трактаваць усе сумневы ў яго вінаватасці на карысць абвінавачанага.

## III. ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ. ПРАБЛЕМА СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

У 2019 г. у Беларусі, нягледзячы на пастаянныя заклікі да ўвядзення мараторыя на прымяненне смяротнага пакарання з боку ЕС і ПАСЕ, працягвалі ўжываць смяротнае

пакаранне. На працягу года судамі краіны былі вынесены тры смяротныя прысуды, трое раней прысуджаных да расстрэлу былі пакараныя смерцю.

9 студзеня Магілёўскім абласным судом быў вынесены першы у 2019 годзе смяротны прысуд у дачыненні да 36-гадовага жыхара г. Бабруйска Аляксандра Асіповіча. Яго прызналі вінаватым у падвойным забойстве, здзейсненым пры абцяжваючых абставінах і асудзілі да смяротнага пакарання.

14 траўня 2019 г. у Вярхоўным судзе была разгледжаная апеляцыйная скарга асуджанага. Сябры судовай калегіі: намеснік старшыні Вярхоўнага суда Руслан Аніскевіч, суддзі Аляксей Цяцюхін і Андрэй Яфрэмаў, адхіліўшы хадайніцтва абвінавачанага аб прызначэнні дадатковых экспертыз, пакінулі прысуд суда ў сіле.

17 снежня 2019 г. стала вядома аб прывядзенні ў выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да Аляксандра Асіповіча.

Аб прывядзенні прысуду ў выкананне бабруйскаму «Камерцыйнаму кур'еру» паведаміла старшы пракурор аддзела пракуратуры Магілёўскай вобласці Вольга Іванова, якая выступала па гэтай крымінальнай справе на працэсе ў якасці дзяржаўнага абвінаваўцы. Паводле яе слоў, пасля рашэння Вярхоўнага суда Асіповіч напісаў асабістае хадайніцтва аб памілаванні на імя прэзідэнта А. Лукашэнкі, але кіраўнік дзяржавы пакінуў хадайніцтва без задавальнення.

Варта адзначыць, што смяротны прысуд у дачыненні да А. Асіповіча быў прыведзены ў выкананне нягледзячы на тое, што той рыхтаваў і намераваўся ў бліжэйшы час падаць наглядную скаргу і актыўна кантактаваў у сувязі з гэтым са сваім абаронцам, рыхтаваў іншыя дзеянні у сваю абарону, настойваючы на невінаватасці.

Дадзеная акалічнасць яшчэ раз падкрэслівае неэфектыўнасць такога механізму прававой абароны на нацыянальным узроўні, як абскарджанне прысуду ў парадку нагляду.

Акрамя таго, праваабаронцам пэўна вядома аб намеры А. Асіповіча накіраваць індывідуальны зварот у КПЧ ААН аб парушэнні яго правоў дзяржавай. Расстрэл асуджанага да заканчэння нагляднага абскарджання прысуду ў корані падрывае і без таго сумніўны аргумент дзяржавы аб неабходнасці зваротаў ва ўсе пералічаныя ў працэсуальным заканадаўстве наглядныя інстанцыі па лініі суда і пракуратуры да звароту ў КПЧ ААН.

13 чэрвеня 2019 г. ПЦ "Вясна" стала вядома аб прывядзенні ў выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да Аляксандра Жыльнікава. Лёс другога фігуранта справы — Вячаслава Сухаркі — невядомы. Але, як паказвае практыка, прысуды адначасова прыводзяцца ў выкананне ў адносінах да ўсіх асуджаных да вышэйшай меры па адной справе.

30 траўня 2019 г. адвакатка была на спатканні з А. Жыльнікавым, дзе яны складалі скаргу ў Генеральную пракуратуру з нагоды разгляду справы па наноў адкрыўшыхся абставінах. 13 чэрвеня 2019 г. адвакатка накіравалася ў СІЗА № 1, каб працягнуць працу па скарзе, аднак там ёй паведамілі, што Аляксандр Жыльнікаў «выбыў па прысуду». Адвакатка удакладніла, ці азначае гэта, што ён расстраляны, на што атрымала пацверджанне гэтай інфармацыі.

Варта адзначыць, што ў Камітэце па правах чалавека ААН на разглядзе знаходзіцца індывідуальны зварот А. Жыльнікава, які быў зарэгістраваны 24 снежня 2018 года пад нумарам 3082/2018.

Камітэт звяртаўся да ўладаў Беларусі з просьбай прыняць часовыя меры і не прыводзіць у выкананне смяротны прысуд да разгляду звароту асуджанага Камітэтам.

Смяротны прысуд быў прыведзены ў выкананне напярэдадні правядзення ў Беларусі Другіх Еўрапейскіх гульняў. Чарговы расстрэл выклікаў асуджэнне з боку шэрагу міжнародных арганізацый.

Урад Беларусі быў падвергнуты крытыцы з боку прадстаўнікоў ААН за невыкананне ў поўнай меры добраахвотна ўзятых на сябе міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека. Рэспубліка Беларусь павінна прыпыніць выкананне смяротных прысудаў у дачыненні да асобаў, якія звярнуліся са скаргамі ў Камітэт ААН па правах чалавека, заявілі 1 ліпеня эксперты ААН па правах чалавека пасля атрымання інфармацыі пра расстрэл Аляксандра Жыльнікава, справа якога знаходзіцца на разглядзе Камітэта.

Камітэт па правах чалавека, разам са Спецыяльным дакладчыкам ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі і Спецыяльным дакладчыкам ААН па пытанні аб пазасудовых пакараннях смерцю, пакараннях смерцю без належнага судовага разбору або адвольных пакараннях смерцю, рэзка асудзілі Рэспубліку Беларусь за працяг прымянення смяротнага пакарання ў сувязі з інфармацыяй аб тым, што смяротны прысуд у дачыненні да А. Жыльнікпва быў прыведзены ў выкананне, нягледзячы на просьбу Камітэта па правах чалавека прыпыніць выкананне на час разгляду яго скаргі. Да сённяшняга дня Рэспубліка Беларусь праігнаравала ўсе просьбы Камітэта датычна прыпынення выканання прысудаў у дачыненні да асобаў, чые справы знаходзіліся на разглядзе Камітэта. Дадзеная працэдура, вядомая як «часовыя меры», накіраваная на таго, каб пазбегнуць прычынення дзяржавай непапраўнай шкоды. Парушэнне дадзенай працэдуры з'яўляецца парушэннем Рэспублікай Беларусь яе абавязацельстваў па артыкуле 1 Факультатыўнага пратаколу да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, да якога яна далучылася ў 1992 г.

30 ліпеня 2019 г. Віцебскі абласны суд вынес смяротны прысуд Віктару Паўлаву, якога абвінавачвалі па ч. 2 арт. 139 КК (забойства).

12 лістапада Вярхоўны суд разгледзеў апеляцыйную скаргу асуджанага да смяротнага пакарання В. Паўлава на прысуд Віцебскага абласнога суда ад 30 ліпеня 2019 г. Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда адмовіла ў задавальненні скаргі і пакінула вынесены прысуд без зменаў. Такім чынам, вынесены В. Паўлаву прысуд уступіў у законную сілу.

25 кастрычніка Брэсцкі абласны суд вынес трэці у 2019 годзе смяротны прысуд — у дачыненні да 48-гадовага жыхара г. Лунінца Віктара Сергіля.

Такім чынам, на канец 2019 г. у камеры смяротнікаў у СІЗА МУС № 1 г. Мінска знаходзіліся два асуджаныя да расстрэлу. Прысуд у дачыненні да В. Сергіля пакуль не ўступіў у законную сілу ў сувязі з падачай апошнім апеляцыйнай скаргі на вынесены прысуд у Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь.

Тым часам, афіцыйны Мінск працягваў ўдзельнічаць у малаактыўным дыялогу па абмеркаванні праблематыкі прымянення смяротнага пакарання.

Так, 27 жніўня 2019 г. у Мінску прайшла канферэнцыя "Грамадская думка і смяротнае пакаранне ў Беларусі", арганізаваная Саветам Еўропы і працоўнай дэпутацкай групай Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па вывучэнні праблематыкі смяротнай кары. Нягледзячы на тое, што ў час яе правядзення начальнік галоўнага ўпраўлення Еўропы і Паўночнай Амерыкі МЗС Беларусі Андрэй Бушыла заявіў, што ў Беларусі і Савета Еўропы "няма прынцыповых рознагалоссяў з нагоды перспектываў вышэйшай меры пакарання", кіраўнік працоўнай групы Нацыянальнага сходу па вывучэнні праблематыкі смяротнага пакарання як інструмента пакарання, які ўжываецца ў Беларусі, дэпутат Андрэй Навумовіч ў чарговы раз агучыў пазіцыю афіцыйнага Мінска па дадзенай праблеме — мараторый на прымяненне смяротнай кары будзе ўведзены толькі тады, калі колькасць яе прыхільнікаў у грамадстве стане менш, чым колькасць яе праціўнікаў.

У інтэрв'ю галоўнаму рэдактару расійскага радыё «Эхо Москвы» Аляксею Венядзіктаву А. Лукашэнка сказаў, што ён не мае намеру ўводзіць мараторый на прымяненне смяротнага пакарання ў Беларусі. Паводле яго слоў, ён «не мае права гэта зрабіць, паколькі дадзенае рашэнне было прынята на рэферэндуме і толькі рэферэндум можа гэта адмяніць». На думку А. Лукашэнкі, смяротнае пакаранне «як папярэджанне некаторым падонкам, дапамагае трымаць стабільнасць і разабрацца з гэтым бандытызмам».

Варта адзначыць, што ў дзяржаўных СМІ адсутнічае якая-небудзь грамадская дыскусія на тэму прымянення ў краіне смяротнага пакарання. Толькі праваабаронцы спрабуюць уплываць на грамадскую думку па пытанні адмены смяротнага пакарання. ПЦ "Вясна" ў рамках ініцыятывы "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" працягвае правядзенне кампаніі па адмене гэтага віду пакарання ў краіне. У 2019 г. прадстаўнікі кампаніі правялі шэраг мерапрыемстваў у рамках традыцыйнага штогадовага тыдня супраць смяротнага пакарання.

## IV. АБМЕЖАВАННЕ СВАБОДЫ МІРНЫХ СХОДАЎ

Свабода мірных сходаў і выказвання думкі адвольна абмяжоўваліся і паўсюдна парушаліся у 2019 г.

Беларускае заканадаўства не ўтрымлівае паняцця мірнага сходу, закон не ўтрымлівае таксама нормаў пра прэзумпцыю на карысць ажыццяўлення права на мірныя сходы. Паводле закона аб масавых мерапрыемствах, працэс атрымання дазволу на правядзенне масавых мерапрыемстваў, у тым ліку на адзіночны пікет, па-ранейшаму спалучаны з празмернымі патрабаваннямі і абмежаваннямі. Арганізатары павінны заключыць адпаведныя дамовы і аплаціць ахову грамадскага парадку, аказанне медыцынскай дапамогі і ўборку тэрыторыі пасля правядзення мерапрыемства; заключэнне гэтых дамоваў яшчэ не гарантуе дазвол на правядзенне мерапрыемства. Забаронена правядзенне мірных сходаў на цэнтральных плошчах і на частках цэнтральных вуліц сталіцы. Гэтыя патрабаванні, абмежаванні і забароны, між тым, не распаўсюджваюцца на афіцыйныя мерапрыемствы, якія праводзяцца ўладамі.

Змены ў закон, якія ўступілі ў сілу з 26 студзеня, прадугледзелі магчымасць правядзення статычных масавых мерапрыемстваў у пастаянных месцах для правядзення масавых мерапрыемстваў, вызначаных мясцовымі органамі ўлады, у паведамляльным парадку. Пры гэтым арганізатары ўсё роўна абавязаны выканаць завышаныя патрабаванні па арганізацыі масавага мерапрыемства і аплаце выдаткаў, уборкі і забеспячэння аказання медыцынскай дапамогі. Як неаднаразова адзначалася, сталыя месцы для правядзення

масавых мерапрыемстваў, пра якія ідзе гаворка, часцяком недарэчныя або нязручныя для канкрэтных мерапрыемстваў.

Вызначаныя Саветам міністраў стаўкі на аплату аховы грамадскага парадку на дазволеных масавых мерапрыемствах апынуліся сур'ёзнай перашкодай для іх арганізацыі: так, ахова міліцыяй масавага мерапрыемства з колькасцю ўдзельнікаў да 10 чалавек абыходзіцца ў 76,5 рублёў, ад 11 да 100 чалавек — 637,5 руб., ад 100 да 1 000 чалавек — 3 825 руб., звыш 1 000 чалавек — 6 375 руб. Пры правядзенні масавых мерапрыемстваў у месцах, якія не аднесены да спецыяльна адведзеных, паказаныя памеры павялічваюцца ў паўтара раза.

У той жа час улады працягваюць практыку рэпрэсій у дачыненні да арганізатараў і ўдзельнікаў несанкцыянаваных мірных сходаў; кожны раз на працягу года ўзмацненне вулічнай актыўнасці суправаджалася ростам колькасці затрыманняў, штрафаў і арыштаў.

Арганізатарам правядзення традыцыйных мерапрыемстваў Дня Волі 25 сакавіка 2019 г, якія прадстаўлялі розныя партыі і рухі, іх аб'яднанні з суполкамі актывістаў, адмовілі ў прадастаўленні магчымасці правесці мерапрыемствы на многіх ключавых пляцоўках у горадзе Мінску. Гарадскія ўлады не дазволілі правесці мітынг 25 сакавіка 2019 г. каля Вялікага тэатра оперы і балета. Таксама былі не дазволеныя мерапрыемствы на стадыёне «Дынама». Прыйшла адмова і па запытаных пляцоўках каля Палаца спорту і на плошчы Свабоды.

У ходзе правядзення дазволеных мерапрыемстваў Дня Волі былі затрыманыя некалькі чалавек, у прыватнасці 24 сакавіка 2019 г.: Зміцер Дашкевіч — за змест выступу (пасля двухдзённага арышту аштрафаваны), Віталь Рымашэўскі — без прычыны, а таксама Наталля Гарачка, чый пратакол за дробнае хуліганства пасля трох сутак утрымання актывісткі ў ІЧУ быў накіраваны на дапрацоўку.

25 сакавіка 2019 г. у розных месцах, па інфармацыі "Вясны", былі затрыманыя больш за 15 чалавек. Сярод іх палітыкі і актывісты, а таксама вядомыя рок-музыкі (Л. Вольскі, І. Варашкевіч, З. Вайцюшкевіч і П. Аракелян), якія збіраліся зладзіць імправізаваны канцэрт на пешаходнай вуліцы ў цэнтры горада.

Анансаванага і шырока разрэкламаванага беларускімі ўладамі на розных перагаворных пляцоўках і ў міжнародных арганізацыях спрашчэння парадку правядзення мірных сходаў не адбылося. Наадварот, тыя нешматлікія масавыя мерапрыемствы, якія раней дапускаліся дзяржавай, апынуліся пад пагрозай знікнення. Гаворка ідзе перш за ўсё аб непад'ёмнай для арганізатараў суме аплаты за ахову грамадскага парадку падчас такіх мерапрыемстваў. Ахвярамі парушэнняў права на мірны сход ўжо сталі сябры аргкамітэта па святкаванні Дня Волі ў Кіеўскім скверы Мінска: у арганізатараў мерапрыемства ўзнікла спрэчка з міліцыяй па пытанні якасці аказаных паслуг і па суме аплаты, якая была значна павялічана ў параўнанні з названай у дамове. І хоць адпаведнае заканадаўства прадугледжвае такія сітуацыі і прадугледжвае вырашэнне спрэчак шляхам перамоў і ў судовым парадку, арганізатары былі адміністрацыйна аштрафаваныя за адмову аплаціць паслугі міліцыі да вырашэння спрэчкі, што ўзнікла па сутнасці.

22 красавіка 2019 г. заяўнікі «Чарнобыльскага шляху» атрымалі дазвол Мінгарвыканкама на правядзенне 26 красавіка штогадовага шэсця ў гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Аднак на аплату паслуг міліцыі спатрэбілася каля 7 500 беларускіх рублёў. У сувязі з гэтым Аргкамітэт па правядзенні распаўсюдзіў заяву, у якой выказаў рашучую нязгоду з аплатай паслуг па ахове шэсця і мітынгу 26 красавіка. Акрамя таго, арганізатары

спасlаліся і на адсутнасць сродкаў на аплату такой сумы, у сувязі з чым адклікалі заяўку на мерапрыемства.

Нечаканымі ахвярамі новага парадку збірання платы за міліцэйскі клопат сталі прадстаўнікі рэлігійных канфесій, якія практыкуюць рознага роду шэсці ў рамках вызнання сваёй рэлігіі: адпраўленне рэлігійных абрадаў па-за культавымі будынкамі адбываецца па правілах закона аб масавых мерапрыемствах.

Пэўнага роду кульмінацыяй пратэсту грамадскасці супраць размяшчэння забаўляльнага комплексу “Поедем поедим” паблізу ад месца масавых расстрэлаў ва ўрочышчы Курапаты, які доўжыцца з 1 чэрвеня 2018 г., стаў знос ўладамі ўсталяваных актывістамі па мяжы мемарыяла драўляных крыжоў. Пасля зносу крыжоў адбыліся затрыманні актывістаў, якія сталі на абарону месца памяці аб масавых рэпрэсіях савецкага перыяду.

Распачаты 25 лютага 2018 г. пратэст гараджан супраць будаўніцтва завода акумулятарных батарэй пад Брэстам, які можа стаць пагрозай экалагічнай бяспецы ў рэгіёне, прынёс вынікі: у чэрвені 2019 г. будаўніцтва завода прыпынена. Толькі за 2019 год пратэст каштаваў актывістам больш за 16 500 руб. штрафаў. Многія з іх таксама правялі па некалькі сутак да суда пад арыштам. Некалькі экалагічных актывістаў падвергліся буйным штрафам і падчас восеньскіх парламенцкіх выбараў.

Узрослая грамадска-палітычная актыўнасць у перыяд парламенцкіх выбараў пацягнула рост рэпрэсій у дачыненні да грамадзян у пост-выбарчы перыяд. Фіксаваліся выпадкі прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці тых, хто выкарыстаў больш шырокія магчымасці пратэстнай актыўнасці, якія прадстаўляюцца выбарчым заканадаўствам, для прасоўвання сваіх ідэй і перакананняў. Усяго ў пост-выбарчы перыяд былі зафіксаваныя 34 выпадкі асуджэння 14 чалавек: накладзена штрафаў у суме 43 300 руб., 2 чалавекі падвергнутыя адміністрацыйнаму арышту.

На фоне падпісання дарожных мапаў па інтэграцыі Беларусі і Расіі, а таксама анансаваных сустрэч прэзідэнтаў дзвюх краінаў, дэмакратычнымі сіламі былі праведзены акцыі ў абарону незалежнасці і дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь. Запланаваныя мерапрыемствы прайшлі 7, 8, 20 і 29 снежня ў Мінску, а таксама ў іншых гарадах Беларусі.

Вынікам рэпрэсій за пратэсты на працягу снежня 2019 года стала каля 70 выпадкаў асуджэння за рэалізацыю сваіх правоў: не менш за 12 чалавек арыштаваныя, накладзена штрафаў на суму больш за 56 000 руб. Некаторыя з пратэстоўцаў пакараныя неаднаразова.

Па дадзеных ПЦ “Вясна”, у 2019 годзе па артыкуле 23.34 КаАП вынесена не менш 162 пастаноў у дачыненні да 121 чалавека. З іх прызначаны арышт у 13 зафіксаваных выпадках. Акрамя таго, за ажыццяўленне права на мірныя сходы і выказванне меркаванняў на вулічных акцыях па артыкуле 23.4 КаАП (непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы) да адказнасці прыцягнуты 3 чалавекі, па артыкуле 17.1 (дробнае хуліганства) да адказнасці прыцягнуты 16 чалавек (25 зафіксаваных выпадкаў, вялікая частка з якіх кваліфікавана адначасова і па арт. 23.4 КаАП), з іх двум прызначаны арышт. 11 чалавек (44 выпадкі) аштрафаваныя за парушэнне правілаў дарожнага руху.

Такім чынам, за ажыццяўленне права на мірныя сходы, свабоду меркаванняў і іх выказванне на вулічных акцыях падвергнуты адміністрацыйным спагнанням не менш за 151 чалавек, зафіксавана не менш за 234 выпадкі рэпрэсій. На пратэстоўцаў накладзена штрафаў на суму не менш за 146 800 руб. У суме актывістам прызначана больш за 200 сутак адміністрацыйнага арышту.

Паводле звестак МУС, за 2018 год па артыкуле 23.34 КаАП грамадзяне прыцягваліся да адказнасці 229 разоў. За 2017 год, па тых жа дадзеных, вынесены 693 пастановы па гэтым артыкуле.

## V. ПАРУШЭННЕ СВАБОДЫ ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯЎ

За мінулы год сітуацыя са свабодай выказвання меркаванняў у Беларусі не зведала істотных зменаў, застаючыся стабільна кепскай.

Працягвалася выкарыстання санкцый артыкулаў 17.11 КаАП (распаўсюд, выраб, захоўванне, перавозка інфармацыйнай прадукцыі, якая змяшчае заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці ці прапагандуе такую дзейнасць) — 13 зафіксаваных ПЦ "Вясна" выпадкаў, і 17.10 (прапаганда і (або) публічнае дэманстраванне, выраб і (або) распаўсюджванне нацысцкай сімволікі або атрыбутыкі) — 2 выпадкі, з мэтай падаўлення іншадумства і распаўсюджвання альтэрнатыўных палітычных поглядаў.

У розныя гады ў рэспубліканскі спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў былі ўнесены ў якасці экстрэмісцкіх інфармацыйныя матэрыялы, размешчаныя на шэрагу сайтаў. Перадрук якіх бы там ні было матэрыялаў, у тым ліку без устаноўленых прыкмет экстрэмізму, з гэтых сайтаў сталі правапарушэннем.

Фіксаваліся выпадкі прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці за распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі, дзе забароненыя сімвалы накшталт свастыкі выкарыстаны ў малюнках або інфармацыі антыфашысцкага зместу. Здзіўленне выклікаюць прыцягненне да адказнасці за публікацыю мастацкага тэксту дзевяцігадовай даўніны ў газеце, штраф за рэакцыю неўхвалення ў сацыяльнай сетцы да матэрыялу з нацысцкімі сімваламі і іншыя выпадкі злоўжывання ўладамі сваім правам для абмежавання свабоды меркаванняў і іх распаўсюду.

Улічваючы складанае становішча ў галіне ажыццяўлення свабоды меркаванняў у рэгіёне, праваабаронцы арганізавалі і правялі ў Мінску міжнародную канферэнцыю "Супрацьдзеянне экстрэмізму і правы чалавека". На канферэнцыі таксама быў прадстаўлены сумесны тэматычны даклад праваабарончых арганізацый Беларусі.

## VI. АБМЕЖАВАННЕ НА СВАБОДУ РАСПАЎСЮДЖВАННЯ ІНФАРМАЦЫІ, ПЕРАСЛЕД ЖУРНАЛІСТАЎ

У мінулым годзе захаваліся ранейшыя практыкі рэпрэсій у адносінах да незалежных СМІ, журналістаў і блогераў.

Захоўваецца ціск на прадстаўнікоў замежных СМІ, якія не маюць акрэдытацыі ў Беларусі, а таксама незалежных журналістаў, чые матэрыялы выкарыстоўваюцца такімі СМІ. Па дадзеных ПЦ "Вясна", за 2019 год зафіксаваны 45 фактаў адвольнага прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці 20 журналістаў і блогераў па ч. 2 арт. 22.9; агульная сума штрафаў за год склала больш за 43 000 руб.

У Брэсце за асвятленне штотыднёвых акцый праціўнікаў будаўніцтва экалагічна небяспечнага завода акумулятарных батарэй рэгулярна затрымліваліся і штрафаваліся блогеры Сяргей Пятрухін і Аляксандр Кабанаў.

## VII. КАТАВАННІ І ЖОРСТКАЕ, БЕСЧАЛАВЕЧНАЕ, ЗНЕВАЖАЛЬНАЕ АБЫХОДЖАННЕ

Крымінальным заканадаўствам Беларусі не крыміналізаваны наўпрост катаванні і забароненыя віды абыходжання; паўнавартаснае расследаванне выпадкаў катаванняў і забароненага абыходжання адбываецца вельмі рэдка. Расследаванне выпадкаў катаванняў і забароненага абыходжання падмяняецца правядзеннем папярэдніх праверак; як правіла, асобы, на якіх паказваюць ахвяры жорсткага абыходжання, не затрымліваюцца і ад выканання абавязкаў на перыяд праверкі не адхіляюцца. Адсутнасць інстытутаў грамадскага кантролю, абгрунтаваны недавер да органаў правапарадку і суда, боязь паўтарэння забароненага абыходжання ў закрытых установах спрыяюць захаванню высокага ўзроўню латэнтнасці праяў жорсткасці. Да гэтага часу вышэйшыя службовыя асобы Беларусі не асудзілі прымяненне забароненых відаў абыходжання.

Генеральная пракуратура адмаўляецца аднавіць расследаванне гібелі ў турме г. Жодзіна Алега Багданава, нягледзячы на скаргі яго маці, не задаволенай якасцю следства па справе. На думку маці загінулага і праваабаронцаў, смерць зняволенага пад вартай чалавека з інваліднасцю з прааперыраваным сэрцам была выкліканая неналежным аказаннем медыцынскай дапамогі.

ПЦ “Вясна” ў рамках праекта #БезПраваНаРасправу сабраў сведчанні аб рознага роду праявах жорсткасці з боку прадстаўнікоў улады; пададзены скаргі для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

Так, працягваецца праверка збіцця супрацоўнікам міліцыі актрысы Святланы Сакалоўскай: вынесеныя следчым пастановы аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы пракуратура адмяняе як неабгрунтаваныя, аднак пры гэтым пракурор не выкарыстоўвае прадстаўленае яму законам права самастойна распачаць крымінальную справу па факце здзяйснення злачынства.

У судзе разгледжаны пазоў да казны Рэспублікі Беларусь Дзмітрыя Серады, у кватэру якога ўварваліся супрацоўнікі міліцыі. Нягледзячы на вызначаны судом незаконны характар дзеянняў міліцыянтаў і парушэнне імі канстытуцыйных правоў грамадзяніна, ніхто з іх не прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

## VIII. ПАРУШЭННІ СВАБОДЫ АБ’ЯДНАННЯЎ

18 ліпеня 2019 г. перастаў дзейнічаць арт. 193-1 КК (незаконныя арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі або фонду, альбо ўдзел у іх дзейнасці). У той жа час, уступіў у сілу арт. 23.88 КаАП, які прадугледжвае адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу за ажыццяўленне дзейнасці ад імя незарэгістраваных арганізацый.

З ліпеня месяца і да канца года не было зафіксавана фактаў прымянення арт. 23.38 КаАП, што, аднак не адмяняе небяспекі яго патэнцыйнага прымянення ў дачыненні да прадстаўнікоў незарэгістраваных арганізацый у будучыні.

Цягам 2019 г. не адбылося істотных зменаў у сферы свабоды асацыяцыяў.

Як і ў папярэднія гады, рэгістрацыя незалежных грамадскіх аб'яднанняў дзяржаўнымі рэгіструючымі органамі прыводзіла да вялікіх цяжкасцяў.

Так, не мела поспеху паўторная спроба рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Дзея». У канцы студзеня 2019 г. Мінюст паўторна адмовіў у рэгістрацыі аб'яднання, не абгрунтаваўшы яго дапушчальнымі абмежаваннямі свабоды асацыяцыяў. У дакументах для рэгістрацыі былі адшуканыя некалькі апісак і недакладнасцяў.

26 ліпеня 2019 г. Брэсцкі аблвыканкам адмовіў у рэгістрацыі створанага грамадскага аб'яднання «ЭкаБрэст». Падставай да адмовы стала наяўнасць парушэнняў заканадаўства ў дакументах, пададзеных на рэгістрацыю, і дадзеныя парушэнні, на думку рэгіструючага органа, носяць непапраўны характар. Заснавальнікамі створанага аб'яднання выступілі 12 жыхароў Брэста і Брэсцкага раёна. Галоўная мэта грамадскай арганізацыі — шырокае прыцягненне грамадскасці да вырашэння экалагічных праблем, абарона правоў і свабод чалавека, гарантаваных Канстытуцыяй і міжнароднымі дамовамі.

На працягу 2019 г. Мінюстам Рэспублікі Беларусь праводзілася работа па ўнясенню змяненняў у Законы Рэспублікі Беларусь аб палітычных партыях і аб грамадскіх аб'яднаннях. У дадзенай рабоце прымалі ўдзел і прадстаўнікі некаторых палітычных партый (у тым ліку апазіцыйных) і прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці. Нягледзячы на новыя формы работы дзяржаўных органаў з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці, прапанаваныя змены, тым не менш, карэнным чынам не змяняюць сітуацыю, якая склалася ў сферы дзейнасці НДА ў краіне, і даюць магчымасці для выбарчага падыходу дзяржаўных органаў пры рэгістрацыі новастварaемых незалежных ад дзяржавы грамадскіх аб'яднанняў.

## IX. ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

У Беларусі адсутнічае адзіны рамачны закон аб недапушчэнні дыскрымінацыі. Між тым, нягледзячы на замацаваныя ў шэрагу нарматыўных актах палажэнні аб недыскрымінацыі, падзеі, што адбываюцца, часта сведчаць аб тым, што дзяржаўная палітыка ў дачыненні да прадстаўнікоў меншасцяў з’яўляецца няслушнай. На адсутнасць комплекснага антыдыскрымінацыйнага заканадаўства неаднаразова звярталі ўвагу ўладаў краіны як беларускія праваабарончыя арганізацыі, так і міжнародныя арганізацыі, Камітэт па правах чалавека ААН, у прыватнасці. У краіне адсутнічаюць рэальныя прававыя механізмы абароны ахвяраў дыскрымінацыі, не робяцца дзейсныя захады па абароне ўразлівых груп насельніцтва.

4 траўня 2019 г. МУС на сваім сайце апублікавала заяву гамафобнага характару: у Дзень барацьбы з гамафобіяй ведамства, як і год таму, абраўшы непасрэднай мішэнню вывешаны ў гэты дзень над будынкам амбасады Вялікабрытаніі вясёлкавы сцяг, выказалася аб нязменнасці сваіх пазіцый: «штучнае раздзіманне тэмы аднаполых адносін дэструктыўнае, парушае нормы маралі, вядзе да росту злачынстваў сэксуальнага характару ў дачыненні да дзяцей! Мы — за сапраўднае, яны не пройдуць!». Пазіцыя і выказванні вядомага сваімі гамафобнымі поглядамі міністра ўнутраных справаў І. Шуневіча (пайшоў у адстаўку ў чэрвені 2019 г.) раней ужо былі нагодай для звароту праваабаронцаў з заявай у Следчы камітэт.

15 траўня 2019 г. грамадзянская ініцыятыва Romaintegration прэзентавала даклад «Сацыяльна-эканамічнае становішча ромскага насельніцтва Беларусі». Грамадзянскія актывісты і праваабаронцы адзначылі сярод праблем шматразовыя адмовы ў прыёме на працу ў сувязі з этнічным паходжаннем і этнічнае прафіляванне — практыка вылучэння ромаў у асобную групу для асаблівых мер прафілактыкі.

Абуральным выпадкам парушэння правоў чалавека сталі падзеі ў траўні 2019 года ў Магілёве: там пасля атрымання ілжывай інфармацыі аб дачыненні цыган да выкрадання міліцыянта была праведзена аперацыя па затрыманні мужчын і жанчын, а таксама падлеткаў, старэйшых за 12 гадоў, з ромскіх сем'яў у раёнах іх кампактнага пражывання. У большасці выпадкаў праваахоўнікі дзейнічалі жорстка, груба, лаяліся нецэнзурна і, нічога не тлумачачы, везлі людзей у РАУС. Колькасць ахвяр этнічнага прафілявання, па розных дадзеных (афіцыйныя адсутнічаюць), склала каля 230 чалавек.

Афіцыйная прадстаўніца Следчага камітэта заявіла пра адсутнасць затрыманых па крымінальнай справе. Між тым, больш за 50 чалавек ўтрымліваліся пад вартай да трох сутак. Пасля вызвалення некаторыя затрыманыя паведамілі пра катаванні з мэтай дамагчыся самаагавору. Высветлілася, што затрыманні праведзеныя па-за працэсуальнымі рамкамі расследавання крымінальнай справы і аформленыя як адміністрацыйныя, за здзяйсненне дробнага хуліганства. Адпаведна, у затрыманых не было комплексу гарантый падазраваных: права на абарону, на законнага прадстаўніка ў непаўналетніх, права ведаць сутнасць падазрэнняў, і г.д.

Міліцэйская аперацыя праходзіла пад непасрэдным кантролем кіраўніцтва МУС (па наяўных звестках — аднаго з намеснікаў міністра).

Праваабаронцы магілёўскага аддзялення ПЦ “Вясна” Аляксей Колчын, Барыс Бухель і Аляксандр Буракоў накіравалі ў абласную пракуратуру скаргу на дзеянні кіруючага складу абласнога Упраўлення ўнутраных справаў і супрацоўнікаў міліцыі з-за масавых затрыманняў людзей з цыганскай дыяспары. Старшыня Праваабарончага цэнтра “Вясна” Алесь Бяляцкі таксама накіраваў у Генеральную пракуратуру заяву з просьбай правесці праверку законнасці затрыманняў цыган 16 траўня ў Магілёве.

Кіраўніцтва МУС не прызнала парушэнняў з боку сваіх супрацоўнікаў. Адначасова кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Наталля Качанава выбачылася за тое, што адбылося, перад прадстаўнікамі цыганскіх сем'яў у Магілёве.

Намеснік генеральнага пракурора Аляксей Стук падчас выступу на прэс-канферэнцыі 25 чэрвеня 2019 г. закрануў тэму масавага затрымання цыган 16 траўня ў Магілёве і іншых гарадах Беларусі. У прыватнасці, А. Стук паведаміў, што рабочая група, якая была створана для ацэнкі дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі падчас масавага затрымання цыган у Магілёве, «разабралася з гэтай справай па гарачых слядах». Ён сцвярджаў, што ў супрацоўнікаў міліцыі былі поўныя падставы на такія дзеянні ў дачыненні да цыганскай меншасці. Па словах намесніка генпракурора, брыгада, якую сфарміравалі з працаўнікоў Генпракуратуры і пракуратуры вобласці, нічога супрацьпраўнага ў дзеяннях супрацоўнікаў МУС не выявіла.

Міжнародная федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і яе сяброўская арганізацыя ў Беларусі Праваабарончы цэнтр “Вясна” ў сумеснай заяве заклікалі беларускія ўлады неадкладна спыніць усе акты гвалту і пераследу ў дачыненні да суполак рома і пачаць незалежнае і бесстаронняе расследаванне парушэнняў правоў чалавека, якія адбыліся ў Магілёве.

Таксама праваабаронцы звярнуліся да спецдакладчыкаў ААН. У выніку, Спецыяльны дакладчык па пытаннях меншасцяў і Спецыяльны дакладчык па катаваннях і іншых відах жорсткага, негуманнага і зневажальнага для годнасці відаў абыходжання і пакарання звярнуліся да ўрада Беларусі датычна масавых затрыманняў ромаў і негуманнага абыходжання ў траўні 2019 г. у Магілёве і іншых населеных пунктах.

Эксперты ААН выказалі сур'ёзную заклапочанасць у сувязі з гэтай міліцэйскай аперацыяй, якая была заснавана толькі на падазрэнні ў тым, што ромы могуць быць датычныя да злачынства, якое пазней было прызнана несапраўдным Следчым камітэтам, а таксама расава-матываванымі абразамі і фізічным гвалтам у дачыненні да затрыманых, у тым ліку падчас допытаў. У сваім звароце прадстаўнікі ААН асобна падкрэслілі, што пагрозы і запалохванні з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў былі накіраваны на тое, каб затрыманыя не спрабавалі абараніць свае парушаныя правы. Згаданыя вышэй органы ААН папрасілі ўрад Беларусі прадаставіць дэталёвую інфармацыю аб тым, што адбылося, а таксама пра тое, як былі расследаваныя названыя парушэнні правоў чалавека і якая дапамога была прадастаўлена ахвярам.

Урад Беларусі ў адказ заявіў, што 16 і 17 траўня 2019 г. пры ажыццяўленні праверачных мерапрыемстваў было праведзенае апытанне 132 ромаў, 52 з іх прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Фізічная сіла і спецыяльныя сродкі не ўжываліся і дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў не былі матываваныя расавымі забабонамі. Пры гэтым, пасля дадзеных затрыманняў Генеральнай пракуратурай была праведзена праверка, па выніках якой былі выяўленыя парушэнні пры вядзенні адміністрацыйнага працэсу. У выніку, да 8 супрацоўнікаў Магілёўскага УУС былі ўжытыя меры матэрыяльнага ўздзеяння. Па выніках службовай праверкі 20 супрацоўнікаў раённых падраздзяленняў органаў унутраных справаў г. Магілёва прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.